Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
В.а. галоўнага рэдактара
і заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, г.Мінск,
вул. Змітрака Бядулі, 6-47.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Серада, 10 сакавіка 1999 г. № 26 (557) Кошт свабодны

## Патопы пачаліся

**Як паведамілі нам у рэспубліканскім штабе грамадзянскай абароны, ў Брэсцкай, Гомельскай, Мінскай і Магілёўскай абласцях талыя воды пачалі падтапляць дамы, падвалы і палі.**

Нягледзячы на тое, што беларуския рэкі яшчэ не пачалі моцна разлівацца, сям-там расталы снег нарабіў бяды. За апошні тыдзень у Мінскай вобласці было падтоплена 69 дамоў, 329 падворкаў, 323 падвалы і 15 тысяч гектараў сельскагаспадарчых земляў. У асноўным пацярпелі Любанскі, Маладзечанскі, Стаўбцоўскі і Барысаўскі раёны.

У Івацэвіцкім раёне Брэсцкай вобласці было затоплена 20 падвалаў. У Жыткавіцкім і Акцябрскім раёнах Гомельскай вобласці ад вады пацярпелі 68 дамоў. У Магілёўскай вобласці талыя воды залілі 126 падвалаў і 373 падворкі.

Усяго па Беларусі ад прыродных з'яваў пацярпела 137 дамоў, 691 падворак, 463 падвалы і 15 тысяч гектараў сельскагаспадарчых земляў.

Па словах аператыўнага дзяжурнага штаба грамадзянскай абароны, ліквідацыяй наступстваў патопаў займаюцца супрацоўнікі міністэрства па надзвычайных сітуацыях: пажарныя машыны выпампоўваюць ваду з падвалаў.

Як паведамілі нам у міністэрстве па надзвычайных сітуацыях, пакуль абстаноўка адносна спакойная. У бліжэйшы час, магчыма, з'явіцца пастанова ўрада аб гатоўнасці органаў кіравання да вясновых паводак.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Візіт у Чэхію

**Дэлегацыя Каардынацыйнай Рады дэмакратычных сілаў Беларусі, у якую ўваходзілі Генадзь Карпенка і Андрэй Саннікаў, пабывала з візітам у Чэшскай Рэспубліцы.**

Дэлегацыя правяла перамовы з віцэ-прэм'ерам ЧР Эгонам Ланскім, намеснікам міністра замежных справаў Марцінам Палоушам, намеснікам дырэктара камітэта па замежных справах канцыляры Прэзідэнта ЧР Пятром Бурыанкам. Адбыўся таксама шэраг сустрэчаў у парламенце.

Прадстаўнікі беларускай апазіцыі распавядалі пра сітуацыю ў Беларусі, пра выбары прэзідэнта, прызначаныя Вярхоўным Саветам на 16 траўня 1999 года, пра рэпрэсіі супраць членаў Цэнтрвыбаркама і іншых прадстаўнікоў дэмакратычных сілаў Беларусі. Прадстаўнікам вышэйшай улады Чэшскай Рэспублікі быў перададзены ліст старшыні Вярхоўнага Савета РБ Сямёна Шарэцкага, які ўтрымлівае інфармацыю аб становішчы ў нашай краіне і аб сканчэнні 20 ліпеня 1999 года тэрміну прэзідэнцкіх паўнамоцтваў А.Лукашэнкі.

Падчас візіту прадстаўнікі Хартыі-97 Андрэй Саннікаў і Зміцер Бандарэнка дамовіліся аб супрацоўніцтве з кіраўніцтвам чэшскага фонду «Чалавек у бядзе». У Празе пачынае працу інфармацыйнае прадстаўніцтва Хартыі-97. Такія прадстаўніцтвы дзейнічаюць ужо ў Бруселі і Нью-Йорку.

*Прэс-служба Хартыі-97*

## Саюз палякаў ліквідуюць?

**Па звестках з дасведчанай крыніцы, у міністэрства юстыцыі паступіў афіцыйны ліст з Дзяржкамітэта па справах рэлігіяў і нацыянальнасцяў.**

У ім ставіцца пытанне аб пазбаўленні рэгістрацыі Саюза палякаў Беларусі. У якасці падставы для фактычнай забароны СПБ указваецца на апазіцыйнасць да ўладаў яго кіраўніцтва, ёсць спасылкі на канкрэтныя выступы і інтэрв'ю ў *mass media* старшыні Саюза Тадэвуша Гавіна. Саюз палякаў Беларусі зараз налічвае каля 30 тысяч сябраў па ўсёй краіне.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# АБСЕ заклікае вызваліць Ганчара

**Старшыня Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе Кнут Валебек заклікае прэзідэнта Лукашэнку праявіць гуманізм і вызваліць з турмы Віктара Ганчара.**



*Міністр замежных справаў Нарвегіі Кнут Валебек.*

На працягу мінулага тыдня, і ў святочныя дні таксама, апазіцыя спрабавала вызваліць з турмы старшыню Цэнтральнай выбарчай камісіі Віктара Ганчара, арыштаванага на 10 сутак па рашэнні Ленінскага суда горада Мінска.

Кінуўшы за краты самага рэспектабельнага дэпутата, вядомага палітыка, старшыню легітымнага Цэнтрвыбаркама, прэзідэнт Лукашэнка даў зразумець, што аналагічны лёс напаткае любога апазіцыянера. Пракуратура і КДБ «шыюць» арганізатарам прэзідэнцкіх выбараў, прызначаных Вярхоўным Саветам на 16 траўня, справу аб «змове з мэтай захопу ўлады».

Міністэрства замежных справаў у адказ на заяву дзярждэпартамента ЗША падкрэсліла, што дзейнасць старшыні ЦВК «правакуе дэстабілізацыю грамадска-палітычнага становішча ў рэспубліцы». На думку МЗС, легітымнасць вынікаў рэферэндуму «не падлягае сумненню і не мае патрэбы ў пацвярджэнні з боку іншых дзяржаваў».

Тым часам Віктар Ганчар, змешчаны ў гарадскі спецпрыёмнік-размеркавальнік на вуліцы Акрэсціна, аб'явіў сухую галадоўку, патрабуючы неадкладнага вызвалення з-за кратаў. Стан здароўя В.Ганчара, па словах яго жонкі, стаў пагаршацца, у ноч з 4 на 5 сакавіка да яго двойчы выклікалі «хуткую дапамогу». Адміністрацыя спецпрыёмніка не дазволіла жонцы зноў пабачыцца са зняволеным.

4 сакавіка дэпутаты Вярхоўнага Савета С.Багданкевіч, А.Дабравольскі, А.Лябедзька, У.Навасяд сустрэліся з начальнікам мінскай міліцыі Барысам Тарлецкім, каб дамагчыся спаткання са старшынёй ЦВК і пераканаць яго спыніць сухую галадоўку. Тарлецкі заявіў, што не мае на гэта паўнамоцтваў, а пытанні аб здароўі Ганчара пераадрасаваў да судова-медыцынскай камісіі. Дэпутаты высветлілі, што камісія толькі візуальна агледзела В.Ганчара, які не дазволіў прафесару-кардыёлагу даследаваць сардэчную дзейнасць. Дырэктар навукова-даследчага інстытута кардыялогіі Мікалай Манак паведаміў журналістам, што стан здароўя зняволенага пагаршаецца і могуць наступіць незваротныя змяненні. Віктар Ганчар заявіў, што яго павінны вызваліць са спецпрыёмніка, і не на падставе медыцынскага заключэння. Адвакаты В.Ганчара накіравалі заяву пра перагляд рашэння Ленінскага райсуда. Мінскі гарадскі суд прызначыў разгляд справы на 9 сакавіка.

У суботу дэпутаты Вярхоўнага Савета разам з прадстаўнікамі групы АБСЕ ў Беларусі і кандыдатам у прэзідэнты Міхаілам Чыгіром прыехалі да спецпрыёмніка на вуліцы Акрэсціна. Толькі а 18 гадзіне кіраўніцтва гарадскога ўпраўлення ўнутраных спраў, якое чакала санкцыі зверху, дазволіла Зінаідзе Ганчар пагаварыць з мужам па тэлефоне. В.Ганчар паведаміў, што ў ноч на 6 сакавіка супрацоўнікі ў штацкім і ўрачы, прымяніўшы грубую фізічную сілу, гвалтоўна вывелі яго з галадоўкі. Пасля гэтага тэлефонная размова абарвалася. Зінаіда Ганчар накіравала заяву пракурору Маскоўскага раёна горада Мінска ў сувязі з прымяненнем фізічнага гвалту да яе мужа. З.Ганчар запатрабавала ўзбудзіць крымінальную справу супраць асобаў, якія перавысілі свае службовыя паўнамоцтвы, і правесці судова-медыцынскую экспертызу. Па яе словах, супраць Ганчара былі ўжытыя псіхатропныя сродкі.

У той жа дзень каля станцыі метро Пушкінская адбыўся пікет з плакатамі: «Свабоду Ганчару», «Лукашэнку — у адстаўку». Плакат «Свабоду Ганчару» нехта прымацаваў да плота на вуліцы Акрэсціна. У ноч на 8 сакавіка муры спецразмеркавальніка былі размаляваны гэтым лозунгам.

У нядзелю Зінаіда Ганчар высветліла па тэлефоне ў турэмнага ўрача, што яе муж працягвае галадоўку. Але ёй і адвакатам, якія прыехалі да спецпрыёмніка, каб даведацца пра стан здароўя В.Ганчара, ніхто не адчыніў дзвярэй. Па тэрыторыі спецпрыёмніка *«хадзілі супрацоўнікі і афіцэры ў нецвярозым стане»*, — відаць, сцвярджае кавалі.

Дзеючы старшыня АБСЕ Кнут Валебек, міністр замежных справаў Нарвегіі, звярнуўся з пасланнем да прэзідэнта Лукашэнкі. Старшыня АБСЕ піша: *«У выніку галадоўкі здароўе Віктара Ганчара знаходзіцца пад пагрозай, а гэта той выпадак, калі гуманістычныя меркаванні пераважваюць над усімі астатнімі»*. Спадар Валебек заклікаў прэзідэнта Лукашэнку *«прыняць неадкладныя дзеянні, каб спыніць галадоўку В.Ганчара шляхам яго вызвалення з-пад варты»*.



*Віктар Ганчар.*

На мінулым тыдні кіраўнік групы АБСЕ ў Мінску пасол Ханс-Георг Вік звярнуўся да беларускіх уладаў з просьбай аб дазволе наведаць зняволенага старшыню Цэнтрвыбаркама В.Ганчара, каб мець дакладную інфармацыю пра стан ягонага здароўя. Аднак ніякага адказу спадар Вік не атрымаў.

8 сакавіка кіраўнік мінскай місіі АБСЕ Ханс-Георг Вік сустрэўся з Зінаідай Ганчар. Спадар Вік распаўсюдзіў заяву, у якой заклікаў абодва бакі шукаць мірнага ўрэгулявання канфлікту шляхам дыялогу, а таксама ўстрымацца ад дзеянняў, якія вядуць да канфрантацыі.

Учора Зінаіда Ганчар звярнулася да мітрапаліта Філарэта з просьбай накіраваць да яго святара — у сувязі з крытычным станам здароўя мужа яна просіць для яго споведзі, прычасця і сабаравання.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Газету НАВІНЫ будуць судзіць

**Галоўны рэдактар НАВІНаў Павел Жук, нам. галоўнага рэдактара Кастусь Тарасаў і некалькі аўтараў газеты атрымалі на рукі позвы ў суд Партызанскага раёна на судовае паседжанне, якое пачнецца 26 сакавіка а палове на дванаццатую.**

Іскавую заяву падаў 24 лютага гр. Анатоль Белы, які паскардзіўся ў суд, што надрукаваныя газетай летась два матэрыялы і дзве невялічкія публікацыі гэтага года, у якіх ён узгадваўся, «зняславілі і ганьбілі яго імя». Як заявіў Белы ў суд, за свае «гонар і вартасць» ён жадае атрымаць ад рэдакцыі грашовую кампенсацыю і аплату судовых выдаткаў.

Варта прыгадаць, што за два тыдні да іскавай заявы гр. Белага рэдакцыя атрымала папярэджанне Дзяржкамдруку за парушэнне арт. 5 Закона РБ «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі» ў частцы «закліку да захопу ўлады».

*Аддзел інфармацыі НАВІНАЎ*

## Канфіскавана рэкордная сума фальшывых долараў

У Жлобіне канфіскавана 100 тысяч падробленых долараў і арыштавана 6 фальшываманетчыкаў з Расіі, якія планавалі прадаць гэтыя падробкі з разліку 2 да 1. У прэс-службе міністэрства ўнутраных справаў сцвярджаюць, што супрацоўнікі жлобінскага ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю паставілі своеасаблівы рэкорд — да гэтага часу такой вялікай сумы падробленых долараў у Беларусі ніколі не знаходзілі.

Спецыялісты адзначаюць таксама надзвычай высокую ступень якасці фальшывак. На падробках стодоларавых банкнотаў новага ўзору прысутнічалі не толькі металічная стужка і галаграма, але нават быў нанесены мікратэкст, які магчыма разгледзець толькі праз павелічальную оптыку. Дзе дакладна выраблены гэтыя «шэдэўры», беларускія міліцыянты не ведаюць. Кажуць толькі, што фальшывамаманетчыкі прыехалі ў Беларусь з Масквы, самі яны родам з Дагестана, а некаторыя нават служаць у спецпадраздзяленнях расійскай арміі. У беларускіх міліцыянтаў няма сумневу, што яны выйшлі на добра арганізаваную банду, але ці ўдасца ім «накрыць» цалкам, залежыць ужо не столькі ад іх, колькі ад расіянаў.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

**У нядзелю, 14 сакавіка, адбудзецца дэманстрацыя і мітынг з нагоды Дня Канстытуцыі. Дэманстрацыя пачнецца а 13 гадзіне на плошчы Я.Коласа.**

**Дазвол на правядзенне акцыі атрымалі старшыня БСДП (Народная Грамада) Мікола Статкевіч і старшыня «Маладой грамады» Сяргей Марцэлеў.**

**Пра падтрымку акцыі заявілі БНФ, АГП і дэпутаты Вярхоўнага Савета.**

## За мяжу – з новым пашпартам

**З 1 красавіка замежныя пашпарты савецкага ўзору з дадатковымі ўклеенымі белымі старонкамі становяцца несапраўднымі — з такімі дакументамі грамадзянаў Беларусі за мяжу не выпусцяць.**

Нагадаем, што да 1996 года не існавала ўласна беларускіх пашпартоў, з якімі можна было б выязджаць за мяжу. Усе атрымлівалі «чырвонаскурыя кніжачкі» савецкага ўзору з штампам «Грамадзянін Рэспублікі Беларусь». У 1996 годзе такія бланкі скончыліся, таму аддзелы візаў і дазволаў (АВіДы) пачалі ўклейваць у замежныя пашпарты, дзе ўсе старонкі былі ўжо скарыстаныя, дадаткі — звычайныя аркушы белай паперы, праштампаваныя адмысловай пячаткай АВіДу. Цяпер пашпартна-візавая служба міністэрства ўнутраных справаў вырашыла спыніць хаджэнне такіх дакументаў. Яны падлягаюць абмену на беларускія пашпарты ўзору 1996 года — сіняга колеру, з «новым» гербам.

Як паведамілі нам супрацоўнікі міністэрства ўнутраных справаў, працэс замены пашпарта зойме каля месяца. Асаблівых складанасцяў пры абмене дакумента не будзе. Калі ў старым пашпарце, напрыклад, стаіць штамп «Сапраўдны для шматразовых выездаў за мяжу» да 2000 ці 2001 года, то гэты штамп будзе аўтаматычна перанесены ў новы дакумент — грошай за гэта не возьмуць.

Савецкія замежныя пашпарты, у якія дадатковыя старонкі не ўклейваліся, застаюцца сапраўднымі да заканчэння тэрміну іх дзеяння. Але пасля 31 снежня 2001 года іх таксама трэба будзе замяніць.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Затрымалі амаль сорак чалавек

**Вечарам у мінулую пятніцу ў Гродне амонаўцы затрымалі 38 сябраў маладзёжнага антыфашысцкага камітэта.**

Пасля свайго паседжання ў сядзібе БНФ хлопцы выйшлі на Савецкую плошчу, дзе некаторых пачала спыняць міліцыя. Большасць збочыла на Савецкую вуліцу, дзе ўжо чакалі 6 міліцэйскіх машынаў. У міліцыі іх пратрымалі 3 гадзіны, не тлумачачы прычыны, толькі перапісалі прозвішчы і ўсіх знялі відэакамерай. Пасля гутаркі з начальнікам РАУС палкоўнікам С.Васілеўскім у 22 гадзіны ўсіх адпусцілі, апроч Андрэя Пачобута.

Уся правіна А.Пачобута, па словах ягоных сяброў, якія знаходзіліся побач, была ў тым, што ён задаў амонаўцам пытанне: чаму іх затрымалі? Гэта было расцэнена, як «супрацьдзеянне» міліцыі. Малады апазіцыянер адразу абвясціў сухую галадоўку. Учора ягоную справу павінен быў разглядзець Ленінскі суд горада.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## Белы хоча стаць беларускім мультымільянерам

### *за кошт падпісчыкаў НАВІНАЎ*



У народны суд Партызанскага р-на г. Мінска
Ісцец Белы Анатоль Яфімавіч
220037, вул. Уральская, д. 16, кв. 9 Тэл. 2-35-66-[illegible]
Адказчык. Рэдакцыя газеты „Навіны"
Мінск, вул. [illegible], 96, к. 47
Тэл. 2-100-254, 2-36-89-40.
Аб абароне гонару і вартасці
Заява
У нумарах газеты „Навіны" ад 17 [illegible] 1998 г. у артыкуле „На месцы трох [illegible] крыжы", [illegible] 1998 г. [illegible], 2 лютага 1999 г. [illegible] 10 лютага 1999 г. „Курапаты-[illegible]", а таксама [illegible] газеты былі [illegible] і [illegible] мае гонар і [illegible] Камітэта па [illegible] „Пакутнікам Беларусі"
Згодна артыкулам 7 ГК Рэспублікі Беларусь прашу суд прызнаць [illegible] артыкулы у газеце, [illegible] мае гонар і [illegible] гэтага Камітэту [illegible] і абавязаць газету надрукаваць мае абвяржэнне і выплаціць за нанесены маральны ўрон у памеры 500.000000 рублёў, а таксама вярнуць усе судовыя выдаткі
Анатоль Белы 24 лютага 1999 г. Мінск

У іскавай заяве, пададзенай у суд Партызанскага раёна на рэдакцыю газеты НАВІНЫ, Белы ацаніў свой маральны ўрон за пакрыўджаныя, на яго думку, «гонар і вартасць» у 500 000 000 беларускіх рублёў, ці ў 1.818 долараў 10 цэнтаў па курсу абменных пунктаў, а па чорным курсе — ў 1.666 долараў 60 цэнтаў. Каб зарабіць такія грошы, простаму чалавеку трэба працаваць каля чатырох гадоў. Незразумела, праўда, што меў на ўвазе А. Белы, называючы заяву ў суд «Аб абароне гонару і вартасці», бо «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» падае для слова «вартасны» наступныя значэнні: 1. Каштоўнасць, цана (пра грашовыя знакі, адзінкі). 2. Кошт чаго-небудзь у грашовых адзінках. 3. З'явы, прадметы, якія маюць вялікае значэнне (прыкладам: вартасці міру, вартасці твору). Хіба што Анатоль Яфімавіч скарыстаў 2-е значэнне гэтага слова у іскавай заяве. Наколькі мы ведаем, звычайна людзі абараняюць свае гонар і годнасць. Ды, відаць, Анатоль Яфімавіч ведае, што сам пра сябе піша.

**А. Н.**

# Прэзідэнцкая лыжня раскісла



*На лыжню — стройся!*

IREX/ProMedia

**У мінулую суботу прэзідэнт Лукашэнка катаўся на лыжах у спорткомплексе «Раўбічы».**

«Лыжніку нумар адзін» не спрыяла толькі надвор'е — з раніцы сыпаў дождж і снежная траса раскісла.

Непасрэдна на лыжні начальнік Нацыянальнага алімпійскага камітэта заявіў журналістам, што намераны прывесці спорт *«у адпаведны стан»*. Па словах прэзідэнта, у бліжэйшы час пройдзе спецыяльная нарада на дзяржаўным узроўні. *«У палове федэрацыяў поўны застой»*, — сказаў Лукашэнка і паабяцаў адабраць у спартыўных функцыянераў «кармушкі і адстойнікі».

**А.Д.**

# Камуністы застаюцца ў апазіцыі

**Кіраўніцтва апазіцыйнай беларускай кампартыі лічыць сваёй актуальнай задачай канстытуцыйнае змяшчэнне Аляксандра Лукашэнкі з пасады прэзідэнта, паколькі сам ён у адстаўку не падасць. Аб гэтым заявіў лідэр камуністаў Сяргей Калякін, выступаючы на V з'ездзе ПКБ, які прайшоў у Мінску з 6 па 8 сакавіка.**

З'езд, у якім удзельнічала 256 дэлегатаў з усіх рэгіёнаў Беларусі, лічыць, што Лукашэнка абсалютна не здольны кіраваць дзяржавай і павінен пайсці ў адстаўку, як калісьці «абяцаў». На думку камуністаў, за гады свайго кіравання прэзідэнт знішчыў у Беларусі апошнія рэшткі сацыялізму, стварыў рэжым асабістай улады і вядзе краіну па буржуазным шляху развіцця. Свае адносіны да палітыкі Лукашэнкі дэлегаты з'езда ПКБ выказалі ў спецыяльным звароце да беларускага народа і заяве супраць прыватызацыі зямлі.

Па словах арганізатараў з'езда, улады праявілі немалы інтарэс да яго правядзення. Так, у мінскі Палац культуры трактарнага завода, дзе праходзіла работа партыйнага форуму, некалькі разоў прыходзілі міліцыянты і патрабавалі прадаставіць ім спісы замежных дэлегацыяў, рэгламент работы і тэксты дакладаў дэлегатаў. На думку кіраўніцтва ПКБ, такім чынам улады хацелі аказаць на іх маральны ціск дзеля таго, каб канчатковыя рэзалюцыі з'езда не былі занадта вострымі і апазіцыйнымі.

Прэзідэнт Лукашэнка далёка не адзіны палітычны праціўнік камуністаў з КПБ. На думку Калякіна, дзейнасць фракцыі кампартыі ў Вярхоўным Савеце 13-га склікання дазваляе адваёўваць палітычнае поле ў правай апазіцыі, і таму, магчыма, ні ў якім выпадку камуністам нельга (як гэтага патрабавалі асобныя члены партыі) выходзіць са складу ВС.

ПКБ не збіраецца актыўна ўдзельнічаць у прызначаных на 16 траўня прэзідэнцкіх выбарах, паколькі, на думку дэлегатаў, «яны ў большай ступені носяць прапагандысцкі характар».

Дэлегаты большасцю галасоў абралі першым сакратаром сваёй партыі Сяргея Калякіна і зацвердзілі некалькі яго намеснікаў. Цікава, што адзін з былых лідэраў ПКБ Васіль Новікаў, які з восені мінулага года працуе ў беларускай амбасадзе ў Малдове, на з'ездзе не з'явіўся і не быў абраны нават у склад ЦК.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Ахоўнікаў ізалятара таксама ахоўваюць?

**Цікавыя звесткі пра новыя парадкі ў ізалятары на Акрэсціна прынёс «кур'ер», які сядзеў у адной камеры разам з Алесем Бяляцкім і Барысам Гюнтэрам.**

Паводле ягоных словаў, на калідорах гэтай установы зараз дзяжураць нейкія людзі ў цывільным, якія фактычна кантралююць дзейнні супрацоўнікаў ізалятара. *«Гэта або чэкісты, або супрацоўнікі службы ахувы прэзідэнта»*, — сцвярджаў былы зняволены.

Гэтыя звесткі мы паспрабавалі праверыць. Дзяжурны ізалятара заявіў карэспандэнту НАВІНАЎ, што ніякіх пабочных асобаў у іх «няма і быць не можа». Прэс-служба КДБ таксама абвергла інфармацыю, што нейкія «чэкісты» кантралююць дзейнні супрацоўнікаў ізалятара. Адзіная структура, звязаная з якой нам не ўдалося, — гэта служба аховы прэзідэнта.

Між тым інфармацыю пра «людзей у цывільным», якія фактычна кіруюць сітуацыяй у ізалятары на Акрэсціна, пацвердзілі ў мінулую нядзелю члены Цэнтральнай выбарчай камісіі Барыс Гюнтэр і Сяргей Абадоўскі. *«Мы самі бачылі гэтых людзей у калідорах ізалятара, калі нас пераводзілі з паверха на паверх. Гэта, безумоўна, супрацоўнікі нейкай спецслужбы»*, — заяўляюць Барыс Гюнтэр і Сяргей Абадоўскі, якія на мінулым тыдні сядзелі на Акрэсціна.

**А.Г.**

*КРЫМІНАЛ*

# КДБ арыштаваў кіраўніцтва аптовага рынку

**У панядзелак супрацоўнікі КДБ арыштавалі дырэктара ЗАТ «Кампанія Мінскага аптовага рынку» Ігара Савіцкага і ягонага намесніка Валерыя Бажкова. Пра гэта паведаміў цэнтр інфармацыі і грамадскіх сувязяў КДБ Беларусі.**

Ігар Савіцкі і Валерый Бажкоў абвінавачваюцца ў атрыманні хабару ў памеры 1.000 долараў ад адной камерцыйнай фірмы, якая прасіла «паспрыяць» рэалізацыі сваёй прадукцыі. Падчас перадачы грошай абодва бізнесмены былі ўзятыя з палічным. Зрэшты, гэта ўжо не першая скандальная гісторыя, звязаная з Мінскім аптовым рынкам.

Рашэнне аб стварэнні ЗАТ «Кампанія Мінскага аптовага рынку» было прынятае Мінгарвыканкамам у 1992 годзе. Планавалася, што рынак будзе забяспечваць жыхароў Мінска свежай гароднінай і фруктамі на працягу ўсяго года. Чакалася, што ўжо ў 1998 годзе рынак запрацуе «ў поўную сілу» і штогод будзе пастаўляць Мінску да 150 тысяч тон свежай гародніны і фруктаў.

Агульны кошт праекта склаў каля 40 мільёнаў долараў. З гэтых грошай пяць з паловай мільёнаў долараў складаў крэдыт Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця (ЕБРР), узяты пад гарантыі беларускага ўрада.

Аднак дагэтуль праца ідзе вельмі слаба — гандлёвыя плошчы выкарыстоўваюцца менш чым на палову. Фактычна сталася, што сучасны гандлёвы комплекс з вялікімі і якаснымі складскімі памяшканнямі, які знаходзіцца непадалёк ад Мінска, гораду непатрэбны — 7 пладова-гародніных камбінатаў дастаткова забяспечваюць мінчанаў усім неабходным.

З мінулага года ЗАТ «Кампанія Мінскага аптовага рынку» мусіць выплачваць штогод па 1 мільёну долараў ЕБРР, каб разлічыцца за крэдыт, але такіх грошай не мае. Таму за рынак даводзіцца разлічвацца дзяржаве. Летась Мінгарвыканкам, якому належыць 52% акцыяў ЗАТ «Кампанія Мінскага аптовага рынку», атрымаў з бюджэту 450 тысяч долараў на пакрыццё першага траншу крэдыта. Фактычна можна сказаць, што праект праваліўся, і разлічваемся за гэта мы з вамі як падаткаплацельшчыкі, бо гэта з нашых грошай дзяржава сплачвае доўг ЕБРР.

**Міхась КАРПОВІЧ**

# Дзяцей кормяць па спісах

**У Гродне ўведзеныя нормы водпуску дзіцячага харчавання**

Рашэннем гарвыканкама ў Гродне ўведзеныя нормы водпуску дзіцячага харчавання. Устаноўлена, што на адно дзіця першых двух гадоў жыцця, а таксама на дзіця-інваліда, старэйшае за два гады, можна набыць 6 пачкаў сухіх малочных сумесяў вытворчасці ваўкавыскага АТ «Беллакт», паўтара літра дзіцячага плодаагароднінага харчавання і пяць 100-грамовых бляшанак мясных кансерваў.

Водпуск дзіцячага харчавання будзе рабіцца згодна са спісам, складзеным у паліклініцы, па прад'яўленні пашпартоў бацькоў альбо пасведчання аб нараджэнні дзіцяці.

*БелаПАН*

# З'еўшы грошы, інфляцыя ўзялася за даверлівых

Урадавая палітыка прымусовага рэгулявання эканомікі нарэшце дала доўгачаканы плён — у бягучым годзе **ніводная сям'я на Беларусі не жыве «вельмі добра»**. Праведзенае лабараторыяй «Новак» апытанне рэспандэнтаў па Беларусі і Мінску паказала 0,0% сем'яў, здольных ахарактарызаваць свой стан такімі ўзнёслымі словамі. (Або рэспандэнты не асмеліліся прызнацца ў сваёй неадпаведнасці дзяржстандарту.) Псуюць карціну сацыяльнай роўнасці і 3% сем'яў, якія лічаць сваё эканамічнае становішча «добрым». Аднак перманентная падвышка цэнаў дазваляе спадзявацца, што гэтыя аднаасобнікі неўзабаве вернуцца да заклапочанага жыцця, якім жыве астатні народ. Магчыма, яны не далучацца да тых 16,9% сем'яў па рэспубліцы, што акрэслілі сваё становішча як «вельмі кепскае», а саступяць толькі на ступень ніжэй да 33,6% рэспандэнтаў, якія мяркуюць пра сябе, што іх эканамічнае становішча «сярэдняе» (у Мінску такіх 41,4%). Ніжэй сераднякоў знаходзяцца 43,6% сем'яў, якія, на іхнюю думку, жывуць «кепска», але лепш за тых, хто жыве «кепска вельмі». Сумуючы лічбы, можна канстатаваць, што **«кепска» і яшчэ горш жывуць 60,5% нашых людзей**.

На жаль, апытанне не мела эталонаў, якое жыццё трэба лічыць «вельмі кепскім», якое «сярэднім». Усё на гэтым свеце адносна. Для адных жыццё вельмі кепскае, калі не хапае грошай на адпачынак у Іспаніі; іншыя хваляцца заможнасцю, бо маюць мех бульбы і марынады з дачнага ўчастка. Аднак незалежна ад такіх нюансаў пагаршэнне эканамічнага становішча за апошні месяц адчулі ў цэлым па рэспубліцы 66,2% сем'яў. Сямейны фінансавы негатыў адпаведна адлюстраваўся і на поглядах на эканоміку краіны. Агульнае **пагаршэнне эканомікі Беларусі адзначылі 67,4% рэспандэнтаў (па Мінску — 71,7%)**. Дзеля справядлівасці трэба заўважыць, што песімізм ахапіў не ўсё грамадства. Амаль паўтара працэнта апытаных заявілі, што з іхняга гледзішча эканоміка Беларусі за апошні месяц палепшылася, а 19,4% не ўбачылі ніякіх зменаў у горшы бок, хоць пераменаў да лепшага таксама не прыкмецілі. Урад можа толькі пашкадаваць, што не ўсе беларусы маюць такі добры зрок.

Падзенне ўзроўню жыцця, адзначанае амаль дзвюма трацінамі рэспандэнтаў, успрымаецца ў першую чаргу праз рост цэнаў ды інфляцыю. Ціск гэтых бедстваў, якія апанавалі нас са жніўня мінулага года, такі, што іх адназначна называюць эканамічным крызісам 65,1% людзей на Беларусі (у Мінску крытыкаў, як заўжды, болей — 68,9%). Светлыя спадзяванні на блізкае паляпшэнне жыцця не пакідаюць 6% нязломных аптымістаў. Аднак цьмяныя **прадчуванні далейшага пагаршэння эканамічнага становішча непакояць 46,7% сем'яў, «значнага пагаршэння» чакаюць па рэспубліцы 9,3% рэспандэнтаў**.

Змрочныя ацэнкі бліжэйшай спажывецкай перспектывы настройваюць палову насельніцтва Мінска (дакладна — 56,6%) на чаканне масавых пратэстаў супраць палітыкі ўладаў. Па рэспубліцы ў цэлым актыўнасць, зразумела, меншая — 31,4%. Што лёгка тлумачыцца, бо каму, прыкладам, масава прадэманструеш свой пратэст на вёсцы? Так што больш за палову апытаных па-за межамі сталіцы лічаць, што масавыя пратэсты супраць падзення ўзроўню жыцця малаamagчымымі. **Персанальны ўдзел у мітынгах, дэманстрацыях** ды іншых акцыях пратэсту, дазволеных Канстытуцыяй, **гатовыя прыняць па рэспубліцы 29,4% насельніцтва**.

Аднак выканаўчая ўлада дзяржавы можа пакуль што спаць спакойна, паколькі паслухмяная бальшыня насельніцтва на розныя мітынгі і дэманстрацыі пратэсту супраць падзення жыццёвага ўзроўню хутчэй за ўсё ісці не збярэцца. Па рэспубліцы пра свой мяккі настрой выказаліся 56,1% рэспандэнтаў. З гэтых развважлівых людзей, якія не бачаць сэнсу слухаць па завулках палымяных аратараў, аднак толькі малая частка згодная, што выйсце з эканамічнага крызісу можа забяспечыць працяг сённяшняга курсу ўладаў. Па Беларусі гэты курс задавальняе 9,9% рэспандэнтаў (па Мінску — 5,5%). Значная частка народа, як гэта не дзіўна, расчаравалася ў палітыцы прэзідэнта і бачыць перспектыву ў развіцці рынкавых падыходаў і прыватнага сектару. Па Мінску апытанне выявіла 49,9% «рыначнікаў», але і па рэспубліцы яны складаюць паважны лік — 34,4%. Эканамічныя дасягненні нашых суседзяў — Літвы, Латвіі, Польшчы, Украіны — заахвочваюць лічыць развіццё эканамічных адносінаў з імі (а яшчэ болей з развітымі краінамі Заходняй Еўропы) за найлепшае выйсце з тупіка 56% насельніцтва Беларусі. Адпаведна губляе ранейшую папулярнасць урадавая прапаганда вырашэння эканамічных праблемаў праз шчыльную інтэграцыю з Расіяй. Расійскія СМІ ствараюць непрывабны вобраз сваёй краіны, чамусьці апавядаючы на ўвесь свет пра невыплачанні расіянам заробкі, забастоўкі настаўнікаў і лекараў, залежнасць Расіі ад замежных крэдытаў, пра расійскіх карупцыянераў, ценявы бізнес. Усё разам не дазваляе цвярозаму беларусу думаць, што шлюб дзвюх хворых эканомік зробіць з іх здаровую пару. Усё ж гэтыя ўрадавыя намаганні задавальняюць у цэлым па рэспубліцы 17,5% рэспандэнтаў.



Малая вера ў карысць эканамічнага аб'яднання з Расіяй адбіваецца і на думках адносна палітычных аспектаў мэтазгоднасці злучэння Беларусі з Расіяй у адзіную «славянскую» дзяржаву. **Ухваляюць саюз дзвюх дзяржаваў 43%, супраць шчыльнага саюза — 44,3%.** Такім чынам, вынясенне гэтага пытання на рэферэндум дзеля патрэбнай усенароднай згоды — справа даволі рызыкоўная для ініцыятараў інтэграцыі (пры ўмове, ясная рэч, карэктнага правядзення рэферэндуму). На шырокі недавер да саюза Расіі з Беларуссю моцна ўплывае боязь ваеннага аб'яднання. Мець агульную армію згаджаюцца толькі 2% рэспандэнтаў (астатнія памятаюць трагічны вопыт Афганістана і Чачні).

Уласнаму, неаб'яднанаму ні з кім войску давярае найбольшая колькасць беларусаў (60,7%). Уласна кажучы, што азначае гэты давер — ваенная тайна. Магчыма, гэта зусім не давер, а шчырая любоў да дзяржаўнай інстытуцыі, якая на два гады пераймае бацькоўскі клопат пра сыноў на свае афіцэрскія плечы. Другое сілавое міністэрства рэспублікі — **міліцыя — наадварот, карыстаецца ўстойлівым недаверам большасці насельніцтва (55,1%)**. На пэўны давер да сябе нашы вартавыя парадку здолелі пакуль што абярнуць 37,7% беларусаў. У параўнанні з міліцыяй і АМАПам большым даверам вылучаецца правасуддзе — 41,6%, аднак яму ж не давяраюць 45% апытаных. Фонам такіх малашаноўных для юстыцыі паказчыкаў служыць распаўсюджаная ў народзе ўпэўненасць, што на Беларусі парушаюцца правы чалавека. Цвёрда ў гэтым перакананыя 39,7% людзей, няцвёрда — 25,8%. **Агульнае пагаршэнне ў адносінах да правоў чалавека за апошнія чатыры гады адзначылі 34,6% рэспандэнтаў**. На іхнюю думку, Беларусь займае першае месца па парушэннях правоў чалавека сярод краінаў-суседак: Беларусь — 20,5 %, Расія – 17,6%, Літва — 6,2 %, Украіна — 6%, Польшча — 1,2%.

Неабароненасць правоў адпаведна б'е другім канцом кія па даверы выбарным і прызначаным органам. Нашым мясцовым уладам давяраюць 36% людзей. Вышэйшая заканадаўчая ўлада (Нацыянальны Сход у цэлым) здолела заслужыць недавер 51,9% насельніцтва. Насуперак гэтым недаверкам 21,1% беларусаў давяраюць «лепшым сынам народа». **Ніжэйшае месца ў табелі народнага даверу займае Палата прадстаўнікоў** — тытулаваным абранцам вераць толькі 18,3% насельніцтва.

Як заўжды, болей шанцуе прэзідэнту Рэспублікі Беларусь. Ён мае ступень даверу ад электарата амаль у два разы большую, чым Палата прадстаўнікоў. Па рэспубліцы свой давер прэзідэнту выказалі 39,4% (па Мінску – 20,9%). Найбольшая ступень недаверу да А. Лукашэнкі складае па Беларусі 18,1% (па Мінску — 21,8%). Так што ў сталіцы болей людзей схілілася не давяраць гаранту канстытуцыі, чым верыць ягоным словам. У другіх гарадах і на вёсцы на двух, так мовіць, «вернікаў» А. Лукашэнкі прыпадае адзін «прэзідэнцкі атэіст».

Губляючы ранейшую даверлівасць да галінаў улады, людзі болей вераць царкве (69,4%), якая абяцае дакладную кампенсацыю каму за пакуты, каму за грахі (рай і пекла). Хоць гэта і не тут і не хутка, ды ўсё ж справядліва. А пакуль яна спраўдзіцца, народ чакае травеньскай цеплыні, каб выйсці з рыдлёўкамі на свой прысядзібны лапік зямлі, які ўмагчымлівае зімовы перыяд існавання 54,5% апытаных.

**К. СУРЫН**

*Па матэрыялах сацыялагічнага даследавання лабараторыі «Новак»*

ПАЛІТЫКА

# Совет Европы и Беларусь:

## близок локоток, да не укусишь

Для всей Европы визит в Беларусь вице-президента Парламентской Ассамблеи Совета Европы Роберта Антреттера 4-6 ноября прошлого года прошел незамеченным: инаугурация Европейского Суда по правам человека отодвинула на второй план все текущие встречи и контакты. Однако для Беларуси этот визит был важной вехой в развитии отношений с Советом Европы. Недавно опубликованный доклад Р.Антреттера, основанный на его визите в Беларусь, дал явно понять: никаких позитивных изменений в отношении Беларуси не произойдёт до тех пор, пока белорусский режим не прекратит политику нарушения прав человека и не восстановит конституционный порядок, основанный на Конституции 1994 г.

«Президент Лукашенко продолжает политику, начатую в 1996 г., считая, что конституционные изменения осуществлены демократично и в соответствии с волей белорусского народа. Следовательно, он не имеет никакого намерения вернуться к предшествующей ситуации». Ссылаясь на «очень глубокий разговор с президентом Лукашенко», г-н Антреттер отметил, что «он (Лукашенко) допускает, что Беларусь, вне всякого сомнения, как и все новые демократии, совершила некоторые ошибки. Он выразил готовность сотрудничать с международными организациями для того, чтобы их исправить». Заслуживает внимания президентский софизм, переводящий стрелки со своей политики на Беларусь и придающий «ошибкам» оттенок демократии.

«Страна, кажется, полностью подчинена президенту. Конституционные и законодательные положения, равно как и административная, законодательная и судебная практика, связаны и часто предопределены президентом, — продолжает Р. Антреттер. — Вспомним лишь только, что нижняя палата была создана декретом президента и что судьи всех уровней назначаются им. Также «конституция» 1996 г. даёт президенту право издавать декреты, имеющие силу закона.

Нынешняя политическая система не имеет ничего общего с системой политического плюрализма, принятой в Совете Европы, и далека от соблюдения разделения властей.

Всего зарегистрирована 41 политическая партия, но только две имеют структуры на национальном уровне (коммунистическая партия и БНФ). Партии «настоящей оппозиции» (в частности, коммунистическая партия, БНФ, ОГП, социал-демократическая партия, социал-демократическая Грамада и Яблоко) не представлены в парламенте и их доступ к государственным СМИ (в частности, на телевидение) почти невозможен».

Складывается впечатление, что г-н Антреттер несколько удивлён тому, что для белорусов давно уже стало неотъемлемой реальностью.

«Нынешний режим интенсивно готовится к различным выборам, которые должны пройти в ближайшее время — местные выборы в 1999 г., президентские выборы в 1999 г. по Конституции 1994 г. (в 2001 г. по «конституции» 1996 г.) и парламентские выборы в 2000 г.

В этом смысле следует подчеркнуть, что по Конституции 1994 г. полномочия президента истекают в июле 1999 г. После этой даты его легитимность многими будет считаться утраченной».

Итак, линия официальной Европы прослеживается ясно: если в этом году президентских выборов не произойдёт, Совет Европы будет классифицировать президента Лукашенко после июля 1999 г. не иначе как «президент». По примеру президентской «конституции» 1996 г. и президентского «парламента». Но даже если выборы и произойдут, позиция официальной Европы в лучшую для президента сторону не изменится, что следует из последующих положений доклада Р. Антреттера.

«Даже если избирательный кодекс предусматривает участие международных наблюдателей в выборах, я считаю, что любое возможное приглашение Совета Европы для наблюдения за выборами должно быть воспринято с величайшей предосторожностью. Так как в случае, когда основные условия, в частности, демократическое выборное законодательство, соблюдающее фундаментальные политические свободы, не будут гарантированы, сам факт наблюдения подобных выборов будет равнозначен их легитимизации, какова бы ни была оценка результатов».

**Максим ПЕТРОВСКИЙ,**
*магистр права*

## Мы сядзім на бочцы пораху

Беларусь, як акумулятар хімічнай вытворчасці ўсяго СССР, сёння мае на сваёй тэрыторыі 700 прадпрыемстваў, якія скарыстоўваюць у вытворчасці моцна атрутныя рэчывы. Тэхналагічныя лініі большасці з іх выпрацоўваюць трэці тэрмін магчымай эксплуатацыі, і калі 10 гадоў назад больш ці менш дробных аварыяў здаралася не больш за тры-пяць на год, то зараз такая колькасць адбываецца на працягу тыдня.

Летась, да прыкладу, толькі дзякуючы прафесіяналам аварыйна-выратавальных атрадаў удалося лакалізаваць 39 выпадкаў, калі тэхнагенныя аварыі маглі б перарасці ў буйныя катастрофы з масавай гібеллю людзей і шырокім забруджваннем наваколля.

Найбольшую небяспеку ўяўляюць сабой гіганты «Нафтан» і «Палімір» у Наваполацку, «Азот» у Гродне, «Хімвалакно» ў Магілёве. Усе яны размешчаныя на ўзвышшах, побач з буйнымі рэкамі, што стварае дадатковую небяспеку забруджвання вадаў у выпадку аварыі.

Немалую пагрозу для экалогіі і здароўя жыхароў нашай краіны ўяўляюць сабой таксама транзітныя грузавыя тыкучачныя перавозкі. Кантэйнеры і цыстэрны, у якіх перавозяцца небяспечныя, пераважна расійскія, грузы, таксама даўно падлягаюць калі не спісанню, дык капітальнаму рамонту.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

# Ровесница Барби – кузькина мать

**В этом году исполнилось 40 лет Барби, кукле, с которой связано счастливое детство сотен миллионов женщин во всем мире и нескольких сотен в СССР. Барби, олицетворявшая западное понимание семейного счастья, была и осталась современной, поскольку безукоризненно и во всем следовала изменениям мировой моды.**

Понятно, что Барби, дитя свободного рынка, была персоной нон-грата в СССР, но многие выездные граждане привозили куклу для своих детей и внуков. Может быть, в их числе был и Никита Хрущев, самый мобильный советский лидер (не считая Горбачева) — наверняка кто-то из его свиты перед обаянием Барби устоять не смог. Понятно, что ей надо было что-то противопоставить. Никита Сергеевич, как известно, в карман за словом не лез и, осматривая вместе с Ричардом Никсоном экспонаты американской выставки в Сокольниках летом 1959 года, просто пообещал показать Западу кузькину мать.

Многие помнят организованный Познером и Донахью телемост СССР–Америка и знаменитый ответ советской труженицы на, как ей казалось, провокацию американского ведущего. Сказала, что отрезала: у нас секса нет. Но и люди сведущие, что называется матерые, к диалогу с Западом, когда это понадобилось, оказались не готовыми.

Да и трудно было чтолибо понять. Люди Запада, у которых в конце прошлого века имелись электрические доильные аппараты, а коровники были чище российских госпиталей, недоумевали: за столетие ничего не изменилось! Советские, со своей стороны, тоже обалдевали: полиция штрафует министра за неправильную парковку, а у нас (берегись!) членовозы давят зазевавшихся прохожих. «Так жить нельзя» — вот общий для всех вывод.

Оказалось, можно, да еще как. Надо только гордость иметь. Ибо сказано: что русскому здорово, то немцу смерть. Или того круче: дай нам их теплые сортиры, автобаны и лимузины — мы проживем. А вот они на нашем бездорожье — хренушки. А те, которые немцы, думали, что если Россия пойдет по пути демократии, то сама сможет построить и сортиры, и дороги, еще и на хорошую колбасу останется. Правда, ей в этом надо немножко помочь. В смысле дать денег на первое обзаведение. Так встретились две руки: дающего и берущего.

Но опять промашка вышла. Берущие скоро поняли, что это без денег так жить нельзя, а с деньгами и не так можно. Не в Костроме, так в Лозанне, не в Нижнем Тагиле, так на Ривьере. С деньгами и в Сокольниках не хуже, чем в Лас-Вегасе...

Однажды возобладав, это мнение осталось господствующим. Советское правительство, нахватав у глупых западников 100 миллиардов на демократизацию, ушло, не вернув ни цента. В новой России всякое новое правительство начинало с поездок на Запад в поисках денег. Давали. Но вот уже который месяц не дают. Еще и оскорбляют. Мол, вам отдай хоть все золото мира, вы через месяц пойдете по миру с рукой, протянутой ладонью вверх. Это, конечно, тоже путь, но нецивилизованный.

А им гневно отвечают, что путем цивилизованных народов мы наш, кузькина мать, толерантный народ и не поведем. Чужих путей нам не надо, а нашим мы идти не можем. И кто скажет, что так дальше жить нельзя? Жили и жить будем.

**К.С.**

НАШЫ БАЖНІЦЫ



# Даты і лёсы

### 9 сакавіка

**1454.** Нарадзіўся італьянскі падарожнік Амерыга Веспучы, які здзейсніў чатыры экспедыцыі да берагоў Новага Свету. Нямецкі картограф Марцін Вальдзеемалер назваў у ягоны гонар заморскі мацярык Амерыкай (1507).

**1822.** Чарльз Грэм запатэнтаваў у Нью-Йорку штучныя зубы (зрэшты, першыя звесткі пра зубныя пратэзы налічваюць 2 тыс.гадоў).

**1831.** У Алжыры быў заснаваны Французскі Замежны легіён.

**1959.** У крамах упершыню з'явілася лялька Барбі, падобная формамі да дарослай жанчыны. За 40 гадоў дзяўчынкі атрымалі ў падарунак ужо больш за мільярд гэтых лялек.

**1985.** У Індыі 32-гадовы Джэгдзіш Чандэр завяршыў сваё 15-месячнае падарожжа паўзком, прысвечанае ягонай улюбёнай індуіцкай багіні Маце. За час паломніцтва да яе храма Чандэр прапоўз 1.400 км.

### 10 сакавіка

**1914.** Суфражыстка Мэры Рычардсан пасекла мясніцкім нажом у Брытанскай Нацыянальнай галерэі шэдэўр Веласкеса «Венера перад люстэркам» у знак пратэсту супраць чарговага арышту ўладамі лідэра жаночага руху за роўныя правы з мужчынамі місіс Пенкхерст.

**1917.** Беларускі камітэт правёў у Мінску на Залатой Горцы першы мітынг пад лозунгам «Жыве Беларусь!» Прамоўцы казалі пра неабходнасць наладзіць шчыльную сувязь з нацыянальна дзэрыентаванай вёскай.

**1939.** У Мінску адчыніўся будынак Дзяржаўнага тэатра оперы і балета.

**1939.** Нарадзіўся «круты Уокер» Чак Норыс.

**1969.** Джэймс Рэй, забойца нобелеўскага лаўрэата (прэмія міру) Марціна Лютэра Кінга, быў прыгавораны да 99 гадоў зняволення.

**1977.** Астраномы некалькіх краінаў адначасова адкрылі кольцы вакол планеты Уран.

### 11 сакавіка

**1669.** У выніку вывяржэння вулкана Этна ў Італіі загінулі 20 тыс. чалавек (па іншых звестках — да 100 тыс.). Попелі рэкі лавы пахавалі пад сабой 50 гарадоў. У гэты ж дзень у **1864 г.** каля Шэфілда (Англія) вадасховішча прарвала плаціну — загінулі 250 чалавек. А ў **1888 г.** снежная бура на Паўночным Усходзе ЗША забрала 400 жыццяў, у Нью-Йорку вышыня сумётаў дасягала 6 м.

**1819.** Нарадзіўся выбітны расійскі харэограф французскага паходжання Марыюс Пеціпа, які ўпершыню паставіў «Лебядзінае возера» і «Спячую прыгажуню». У гэты ж дзень нарадзіўся брытанскі цукровы магнат Генры Тэйт, заснавальнік сусветна вядомай галерэі сучаснага мастацтва *Tate Gallery*.

**1918.** Паміж Венай і Кіевам пачала дзейнічаць першая ў свеце рэгулярная авіяпошта.

*Падрыхтаваў*
**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

# Твая нязбытнасць, беларус

## *Нататкі з дзённіка*

### Здзекі з «нямога»

Грамадства ў зацяжным здранцвенні. Палітыкі ўсё больш нагадваюць скаржнікаў. Гавораць, што жыць зусім дрэнна. Бракуе энергіі, наступу. Тым часам нас бессаромна правакуюць. Прычым, самым здзеклівым чынам. Так у дзяцінстве дзеці чапляліся да нямога ці п'янага, пакуль той не пагоніцца, не прыйдзе ў ярасць і злосць. Пагля́дзіце, з якім паказальным нахабствам палезлі да Васіля Старавойтава — хіба гэта не выклік усім нам, здароваму сэнсу, культуры, этыцы, годнасці, маральным нормам. Грамадства нібы правальваецца на тонкім лёдзе лжэдэмакратыі, на які нас выпіхнула воля большай часткі суграмадзянаў.

### Канец ганьбы

Да ўсіх так сардэчна ўпадабаных «славянскіх якасцяў» Аляксандр Лукашэнка мусіць дадаць яшчэ адну, улічыўшы хіба адным беларусам — здольнасць цярпліва і моўчкі зносіць ганьбу. Ад плямаў, якімі беларускі прэзідэнт запэцкаў нацыю, давядзецца так ці інакш адмывацца, хоць праблема гэтая шмат залежыць ад таго, якім будзе канец дыктатара і наколькі ён паспее выкласціся ўсімі сваімі патэнцыямі.

### Як лебедзь пасля вады

Дзіўлюся, як людзі — так званы лукашэнкаўскі электарат — яшчэ ўсё папікаюць Пазьняка ягонымі занадта эмацыянальнымі абяцаннямі звесці рахункі з камуністамі. Нават калі гэта і было, зважаеш на іншае: Лукашэнка пасля публічных захапленняў фашысцкім фюрэрам застаецца чыстым і сухім — як лебедзь пасля вады.

### Тут нам жыць і канаць

Калі бачу, як вырастаюць новыя гмахі, нават цэлыя прысядзібныя рэзідэнцыі на загарадных дачных дзялянках, у два-тры паверхі, думаю пра шматпакутную будоўлю нашага агульнага беларускага дому. Дому нашай дзяржаўнасці, нашай вялікай нацыянальнай ідэі, нашага гаспадарства. Якія толькі дойліды-архітэктары ні слугавалі, прапануючы самы лепшы праект, якія прарабы ні мітусіліся вакол пляцоўкі (у самым «цэнтры Еўропы»!), а на будоўлі тым часам ціша ды запусценне. Гадоў колькі таму яшчэ корпаліся на падмуроўцы, а цяпер, глядзіш, на тую пляцоўку даўно забыліся. Ці не быў прарокам Уладзімір Караткевіч, які пісаў, прадчуваючы благое: «Абяцаюць нам новы раскошны дом...» Вядома ж, паэт меў на ўвазе дом чужы, дзе гаспадаром беларус ніколі сябе не пачуе, таму па-ваярску мужна перасцярог суродзічаў: «Але **тут** нам жыць і канаць, Дзе пад кожным навекі здабытым бугром Нашы продкі забітыя спяць. Яны аддалі нам меч і касу, Слова з вуснаў, цяпер нямых...» Перад словамі патрыёта мізэрнее абяцаная «раскоша». Бляск і веліч яе робіцца ілжывай уяўнымі, спадманнымі, чаргова́й ашукай. А слова «тут» у сваім рукапісу аўтар адмыслова падкрэсліў. Як бы пазначыў для нас месца сапраўднай вялікай будоўлі.

### «Хораша пасядзім»

У электрычцы сельскі настаўнік прыклаў руку да сэрца і прызнаўся, што «за 200 тысяч зайцоў» ён не будзе вымагацца ў класным кіраўніцтве, нават калі яму прымусова «павесяць» гэты гонар. «Хіба не здзек з нашае працы!.. — горача абурыўся ён. — Сейбітаў «разумнага, добрага і вечнага» парабілі жабракамі, на нас хутка пальцам паказваць будуць. Крыўдна ў рэшце рэшт не тое, што плацяць апошнюю дробязь, а тое, што нашую працу ні ў чын не ставяць, што так прынізілі, зганьбілі». З сямейнага досведу ведаю, што цётка маёй маці, калі за польскім часам вучыла ў Возерскім, мела ў месяц 250 злотых, на якія магла б купіць еўрапейскую мэблю і абставіць ёю кватэру. Да яе, маладой вясковай «навучыцелькі», бывала, прыязджалі гандляры, каб прапанаваць ганаровы тавар, вартыя шаноўнай і пацежаздольнай пані. У тым жа Возерску цётка Галена здымала палову дома і мела колькі ўмэбляваных пакояў, дзе магла праваряць вучнёўскія сшыткі, не думаючы пра свінагадоўлю на ўласным падворку. А сёння ў «Народнай волі» прачытаў, што настаўнік у суседняй незалежнай Літве мае заробак ажно ў 15 (!) разоў большы, чым ягоны калега з таго ж, але ўжо сённяшняга Возерска. «Нешта ж не чуваць, каб вы патрабавалі якога падвышэння заробкаў», — закідваю «палітыку» ў ходзе гаворкі. Настаўнік крыху задумваецца ды кажа-пытаецца: «Што, пасярод вёскі станавіцца ў пікеты. Не-е. Лепш за тыя дзвесце тысячаў куплю пляшку віна ды хораша-ціха пасядзім з сябрам».

**Валеры ДРАНЧУК**

# НАВІНЫ – у дзесятцы лепшых газетаў

Сярод беларускіх сродкаў масавай інфармацыі, якія размяшчаюцца ў глабальнай камп'ютэрнай сетцы *Internet*, наша газета займае шостае месца па колькасці чытацкай аўдыторыі. Пра гэта сведчыць рэйтынг, які праводзіць інфармацыйны сервер *Press.net*.

Усе нашы чытачы, хто мае доступ да Internet'а, могуць у гэтым пераканацца самі. Дастаткова толькі набраць адрас *http://press.net.by/top.htm*, каб пабачыць дзесятку самых чытэльных выданняў Беларусі. З гэтай старонкі можна адразу перайсці да апошняга нумара НАВІНАЎ.

Нагадаем, што пасля амаль паўгадовага перапынку ў студзені НАВІНЫ зноў з'явіліся ў Internet. Адрас нашай газеты — *http://www.belarus.net/MassMedia/Newspaper/Svaboda/*. І не забудзьцеся абнавіць вашыя закладкі!

**Р.П.**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. E-mail: edit@svaboda.minsk.by http://www.belarus.net/MassMedia/Newspaper/Svaboda/
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996 Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3)
Заказ 519 Нумар падпісаны ў друк 09/03/99 (15:00) Наклад — 17.500 Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі.